Цана асобнага нумару 20 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 40 (187) | Вільня, Пятніца 28 сьнежня 1928 г. | Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!
Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
[illegible]
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прымае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Аб балючым пытаньні.

На апошнім сабраньні прадстаўнікоў тых дзяржаваў, якія ўходзяць у склад Лігі Нацыяў, выявілася вельмі выразна і яскрава адно пытаньне, каторае ўжо мае назоў — балючага.

Сутнасьць гэтага ў тым, што справа аховы правоў нацыянальных меншасьцяў у Лізе Народаў разумеецца дваяка. Адны дзяржавы разумеюць, што ахоўваць правы нацыянальных меншасьцяў трэба гэтак, **каб гэтыя нацыянальныя меншасьці зьліць з тым народам, які становіць большасьць** у дзяржаве. Другія-ж разумеюць іначай, а іменна?

Гэтыя другія высоўваюць тэзу, што правы нацыянальных меншасьцяў павінна гэтак ахоўвацца, **каб нац. меншасьці мелі абсалютную магчымасьць утрымаць сваю нацыянальную самабытнасьць і разьвіваць сваю нацыянальную культуру.**

Дзеля гэтакага дваякага разуменьня справы, сама справа ў Лізе Нацыяў знаходзілася на мёртвым пункце, а адносіны дзяржаўнага народу з нац. меншасьцямі выклікалі частыя канфлікты, у тых дзяржавах, каторыя нацыянальную меншасьць зьлівалі з большасьцю. Але-ж хіба кожнаму зразумела, што значыць — зьліць?! Гэта значыць, што чалавек павінен пазбавіцца сваей нацыянальнай прыналежнасьці і прыстаць да нейкае іншае нацыі. Для большага зразуменьня дамо гэтакі прыклад: зьліць беларускую нацыю з польскаю, гэта знача, каб Беларусы перасталі быць Беларусамі, ды зрабіліся палякамі.

Ясна, што ні ў якага народу няма на гэта ані ахвоты, ані жаданьня, ані патрэбы. Калі-ж паміма волі, тасаваць прымус да гэтакага «ідэальнага» зьліцьця народаў, дык ясна, што вынікам гэтага будзе барацьба: адны будуць зьліваць, а другія—праціціцца. А дзеля таго, што тых народаў, якія носяць назоў нацыянальных меншясьцяў і якія некаторымі дзяржавамі прызначаны на нацыянальную сьмерць ад асімілятарскага нажа, ёсьць — ў адной толькі Эўропе 40 мільёнаў, дык зразумела, што ня можа стаць іначай, як балючым пытаньнем справа нацыянальных меншасьцяў.

Трэба дзівіцца некаторым палітычным дзейнікам некаторых дзяржаваў, што яны дапускаюцца да гэтакага памылковага пагляду на сутнасьць справы, што яны цэлыя шматмільённыя масы жывых людзей разглядаюць як матэрыял для нейкіх экспэрымэнтаў не пажаданых для гэтых масаў.

На падставе вышэй прыведзенага, мы лічым ня толькі памылковай ці безсэнсоўнай, але-ж нават шкоднай пастаноўку справы нацыянальных меншасьцяў на плошчы іх вынарадавеньня і зьліцьця з другою нацыяй. Пробы ў кірунку зьліцьця з другою нацыяй, заўсёды будуць прычынай канфліктаў між народамі. Карысным, як для паасобных народаў таксама і для ўсяго чалавецтва, ёсьць другая тэза аб справе нацыянальных меншасьцяў. Тэза, якая гаворыць аб тым, што нац. меншасьці павінна мець абсалютную магчымасьць утрымаць сваю нацыянальную самабытнасьць і разьвіваць сваю нацыянальную культуру.

Магчымасьць гэтая можа быць рознаякая, дык ясна, што трэба браць пад увагу ўсе ўмовы жыцьця тэй ці іншай краіны і народу.

Супольная дзяржаўнасьць некалькі народаў можа быць толькі тагды моцнаю і шчасьліваю, калі кожны чалавек будзе адчуваць сябе ў тэй дзяржаве гэтак сама, як ува ўласным доме.

Дзеля таго-ж, што пастаноўка справы нацыянальных меншасьцяў стаіць на памылковым шляху, што нац. меншасьці знаходзяцца на правох квартырантаў, дык гэта і змушае іх шукаць уласнага нацыянальнага дому — сваей нацыянальнай дзяржаўнасьці.

Гэта даецца заўважыць ня толькі ў Беларусаў, але-ж і ў іншых народаў, як украінцы, каталёнцы, фламандцы, харваты, славакі, індусы, жыды (у Палестыне) і г. д.

Вось як разумеем мы — балючае, запраўды—балючае пытаньне!

У выніку дваякага разуменьня справы нац. меншасьцяў паміж польскім міністрам Залескім, як выявіцелем першай—і нямецкім мін. Штрэзаманам, як выявіцелем другой тэзы, на апошнім паседжаньні Лігі Нацыяў, узнялася нязвычайная палеміка, бо на прамову мін. Залескага, мін Штрэзэман пракрычаў свой адказ з вялікім узрушэньнем і здэнэрваваньнем. Гэта здарылася ў часе разгляду сабраньнем Лігі Нацыяў тых сямі жалабаў, якія паданы на польскі ўрад нямецкім «Народным Саюзам» з польскай Верхней Сілезіі.

Гэтае здарэньне павінна даць шмат-каму і шмат-чаго зразумець. Аднак-жа: ці гэтак сталася?!

У «Кур'еры Віленскім» з дня 21 г. сьнежня, п. Тэстіс у артыкуле «Нэрвы і мэты п. Штрэзэмана» з аднаго боку прызнае Штрэзэману дыплёматычную ўдачу, а з другога боку абураецца, а далей крыўдзіцца на прадстаўнікоў француская дыплёматыі, што нявыразна памагала мін. Залескаму.

У канцы-канцоў закончыў—«Пабачым».

Нам здаецца, што... ані цяжкія ўздыханьні ў кірунку п. Брыяна ані злосьць у кірунку п. Штрэзэмана балючай справе не памогуць. Бо, калі, запраўды, справа нац. меншасьцяў зрабілася балючай у Эўропе, дык найгорш (як казаў пас. Ярэміч з соймавай трыбуны) яна прадстаўляецца ў Польшчы!

У такім выпадку: чым можа апэраваць мін. Залескі на «тэрэне» Лігі Нацыяў?

— Можа мае ён за сабою парляманцкае прадстаўніцтва нац. меншасьцяў? — Не!

Ці мо' мае за сабою мін. Залескі паважныя палітычныя і культурныя ўстановы нац. меншасьцяў?—Не!

— Ці мо' мае наагул вырашаную справу нац. меншасьцяў у Польшчы?

— Не! —

Мае перад сабою жалабы, жалабы і яшчэ раз жалабы!

Дык і ня дзіва, што першую іскрыпку зайграў п. Штрэзэман, замест таго, каб гэтакую першую іскрыпку іграў мін. Залескі, як прадстаўнік дзяржавы дзе ёсьць найбольш нац. меншасьцяў.

П. «Тэстісу», як прадстаўніку ў парлямант ад нашага краю, прычыны (чаму так сталася?), павінна быць надта добра ведамыя. Ніхто іншы, а вы п. п. Тэстісы павінна пакіраваць палітыкаю гэтак, каб мін. Залескі меў ня жалабы, а нешта іншае. — «Пабачым!».

**Муха.**

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ

XVII.

Вайна, якая закончылася ў лістападзе 1918 году, цягнулася чатыры гады, а яе спадчына будзе, у тэй ці іншай меры і сэнсе, датыкаць чалавецтва праз час значна даўжэйшы. Ужо мінула дзесяць „спакойных" гадоў, аднак-жа ня было аніводнага спакойнага дня. Увесь час ідуць гутаркі аб скасаваньні вайны, а тым часам справа выглядае гэтак, як быццам. Мір стаіць сіратою каля плоту, а Вайна гігантычна раскрыла рот і пагражае чалавецтву новай і новай навалай. Гэтак здаецца і на гэта ёсьць важкія факты.

Амаль-што кожная дзяржава імкнецца да пашырэньня сваіх абшараў, а гэта знача да захопу суседніх зямель. У сувязі з гэтым завязваюцца вузлы, якія бадай-што будуць развязаны жалезам, агнём і праліцьцём крыві. Пералічым гэтыя найвачавіднейшыя вузлы.

Перадусім кідаецца ўвочы глухая, ціхая, але-ж разам жорсткая і заядлая барацьба між Англіяй і Злучанымі Штатамі Паўночнай Амэрыкі. Дзьве гэтыя дзяржавы імкнуцца да аднэй мэты: да укоснага панаваньня над сьветам. Абедзьве прамысловыя дзяржавы, для збытку сваіх вытвораў патрабуюць рынкаў, абедзьве яны стараюцца захапіць перавагу на моры, бо пераважна гандаль адбываецца морам. Цераз гэта паўстае антаганізм між капіталістымі гэтых дзяржаваў, а дзеля таго, што у ўлады, у абедзьвёх дзяржавах знаходзяцца прадстаўнікі капіталістых, дык для іх нічога ня стоіць кінуць масы ў аружную барацьбу.

Праўда, гэтакія вузлы Англія разьвязвала ўжо ня раз. Рабіла гэта яна чужымі рукамі, і вось як:

Расея некалі пашырала свае абшары коштам кволай Турцыі. Але-ж гэтае пашырэньне Расеі не падабалася Англіі, бо пагражала інтарэсам Англіі на Блізкім Усходзе. Дзеля гэтага Англія стварыла саюз і пад Севостопалем паламала расейскія рогі. Ізноў-жа Расея, пасьля гэтага, пасоўвалася на Далекім Усходзе, дык Англія паціху памагла Японіі стрымаць і адсадзіць назад далёка-усходні размах Расеі. На пачатку 20 стагодзьдзя выплыла на сьвятовы гарызонт магутная Нямеччына. І тут таксама Англія пастаралася. Яна аб'яднала поўсьвету і разьбіла Нямеччыну, зьнішчыўшы яе, як сусьветную сілу. Цяпер, калі магутнасьці Англіі пагражаюць Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі, дык ужо ня ведама, як адхіліць пагрозу Англія. Але-ж ясна адно, што аб гэтым лятуцяць палітыкі Англіі.

На Далекім Усходзе, ужо вельмі даўно, завязаўся вузел пагрозы вайны. Там ахапіў ён Японію і Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі. Скрыгіча зубамі там Вайна і пхае дзьве гэтыя дзяржавы на аружную барацьбу. Справа ў тым, што Японія, жыхарства якое вельмі скора павялічваецца лічбова, патрубуе новых зямель для калёнізацыі. Але-ж загарадзіла ёй дарогу Амэрыка. Ці не пастараецца Японія сьпіхвуць Амэрыку з дарогі?

Ізноў-жа вузел, і моцны вузел, завязваецца каля Італіі. У фашыстаўскай галаве сучаснага „гаспадара" Італіі Мусаліні зарадзілася адумысная думка: вывясьці Італію на першае месца сусьветнага значэньня. Цераз гэтае мы відзім непаразуменьні Італіі з суседзямі (Югаславія, Францыя ды іншыя), якім Італія пагражае сваім пашырэньнем.

Перамога і рэзультат, пасьля якога Нямеччына стала куртатаю: ці-ж ня ёсьць вузел для аружнае развязкі? Праўда, цяпер нельга гэтага зрабіць, бо абрэзаны крыльля, але-ж, як толькі адрастуць яны, дык ці не падумае Нямеччына аб тым, каб скінуць сваю куртатасьць!?

Існаваньне гэтакай дзяржавы як Саветы на тэрыторыі быўшае Расеі, таксама — факт, і бадай найгалаўнейшы, адкуль ідзе пагроза ваеннай навалы. Дык ня дзіва, што курсуюць па сьвеце, чуткі аб камбінацыях Францыі і тых, якія з ею.

Вось у працягу дзевяці месяцаў француекі ген. Ля-Рон езьдзіць па цэнтральнай Эўропе і мае нейкія няведамыя сувязі з генеральнымі штабамі, быццам вядзе з імі нарады і г. д. Проста кажучы; развозіць трывогу: трывога-ж ахапляе значны абшар сьвету — Савецкую Расею і Нямеччыну.

Сутнасьць гэтага ў тым, што, — як шырока інфармуюць газэты, — дык ген. Ля-Рон выконвае заданьне Францыі стварыць саюз дзяржаваў, якія акружаюць савецкую Расею, па адным дадзеным, для таго, каб бараніцца на выпадак вайны ад бальшавікоў, а па другім—для таго, каб здавіць бальшавікоў. Што-ж датыкае Нямеччыну?

Яшчэ ў 1922 годзе прадстаўнікі савецкай Расеі і Нямеччыны падпісалі дагавор аб прыяцельстве. За гэты час, тое прыяцельства дало як Нямеччыне, так і сав. Расеі карысьць. Дружба дзьвёх вялікіх дзяржаваў зьяўляецца сілай, якая выклікае трывогу ў тых, хто чуецца няпэўным у адносінах да тэй сілы.

Францыя, якая і сама шмат уцярпела ад вайны, у выніку міру атрымала найбольшую частку здабычы, а дзеля таго, што гэтая „здабыча" паходзіць ад Нямеччыны, дык ясна, што страх помсты з боку Нямеччыны пужае Францыю. Вось чаму і разумеецца некаторымі палітыкамі, уся камбінацыя Францыі з саюзам дзяржаваў суседніх сав. Расеі так, што быццам той саюз зьяўляецца процівагою савецка-нямецкаму прыяцельству. А цяпер зразумела, што гэтакай працівагі Нямеччына відзець не жадала-б. Гэта вось і датыкае Нямеччыну,

## Зьмена адрэсу.

**Рэдакцыя і Адміністрацыя газэты „Сялянская Ніва" перайшла ў іншае памешканьне. Цяпер яе адрэс гэтакі:**
**Вільня, Завальная вуліца, 7—8.**
**(Wilnia, Zawalnaja wul., 7—8).**

